*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 47 (634) 17 СНЕЖНЯ 2003 г.

# З Калядамі, спадарства!



## Канстытуцыйны Суд займаецца пытаннямі беларускай мовы



**Конституционный Суд Республики Беларусь**

ул. К. Маркса,32
220016, г. Минск
тел. (017) 227-52-09,
факс (017) 227-80-12
E-mail: ksrb@user.unibel.by

**Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь**

вул. К. Маркса,32
220016, г. Мінск
тэл. (017) 227-52-09,
факс (017) 227-80-12
E-mail: ksrb@user.unibel.by

10.12.2003 № 05-08/67-558

**Старшыні**
**Грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

У сувязі са шматлікімі зваротамі грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", і іншых особ па пытаннях парушэння на практыцы балансу выкарыстання дзяржаўных моў Канстытуцыйны Суд неаднаразова выказваў сваю заклапочанасць і пазіцыю ў асобных прынятых рашэннях.

На падставе цэлага шэрага зваротаў, атрыманых у апошні час, Канстытуцыйны Суд 4 снежня 2003 года прыняў пратакольнае рашэнне "Аб выкарыстанні беларускай і рускай м овы ў сферы абслугоўвання, абароту банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання" (тэкст рашэння прыкладаецца).

У рашэнні, якое накіравана ў адрас Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйны Суд зноў прапанаваў заканадаўцу разгледзець пытанне аб унясенні ў Закон "Аб мовах ў Рэспубліцы Беларусь" і іншыя акты заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, здольных забяспечыць фактычную роўнасць дзяржаўных моў.

Адначасова паведамляем, што Канстытуцыйны Суд ажыццяўляе кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных прававых актаў у дзяржаве і не кантралюе іх выкананне. Таму па пытаннях выканання законаў, у тым ліку і Закона "Аб мовах ў Рэспубліцы Беларусь", патрэбна звяртацца ў тыя органы дзяржаўнай улады, у кампетэнцыю якіх і ўваходзіць кантроль за выкананнем актаў заканадаўства.

З павагай
**Намеснік Старшыні А. У. Марыскін.**

*(Працяг тэмы гл. на ст. 3)*

# Таццяне Трафімчык,
## старшыні Слонімскай раённай арганізацыі ТБМ — 50

**Вельмішаноўная спадарыня Таццяна!**

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" сардэчна віншуе Вас, настаўніцу роднай мовы, грамадскую дзяячку, старшыню Слонімскай раённай арганізацыі ТБМ, — з 50-годдзем ад Дня народзінаў.

Вы абралі нялёгкі жыццёвы шлях. Рэдка якая праца можа па сваёй значнасці стаць упоравень з высакароднай працай настаўніка. Гэта — прызванне нямногіх. І ў першую чаргу тых, хто любіць дзяцей і заўсёды разам з імі застаецца маладым насуперак хуткаплыннаму часу.

Тыя, каму пашчасціла быць Вашым вучнем, праз усё жыццё пранясуць пачуццё павагі і ўдзячнасці за Вашую сумленную працу, адданасць роднай Бацькаўшчыне.

У Вашым жыцці наступіла "залатая" пара. Вы сустракаеце свой юбілей у росквіце сілаў і педагагічнага майстэрства, з багатым набыткам жыццёвага і прафесійнага досведу. Асабліва прыемна, што Вы знаходзіце час на грамадскую дзейнасць. Пад Вашым кіраўніцтвам Слонімская арганізацыя Таварыства беларускай мовы зрабіла шмат карыснага. Як чалавек творчы, Вы абудзілі моладзь, аб'ядналі яе вакол роднага слова, дзе ў гуртку "Ветразь надзеі" нараджаюцца першыя паэтычныя радкі, якія, дзякуючы Вашай руплівасці, друкуюцца ў заснаванай Вамі газеце з аднайменнай назвай. Вашая любоў да роднай мовы, да ўсяго, што складае сутнасць беларушчыны, — добры прыклад для вучняў і ўсіх людзей, хто Вас атачае. Праз Вас беларускае слова адгукаецца ў сэрцах многіх слонімцаў.

Для нашага Таварыства, для краіны ў цэлым арганізацыя ТБМ, якую Вы паспяхова ўзначальваеце, ёсць сэрца беларушчыны на старажытнай слонімскай зямлі.

Жадаем здзяйснення ўсіх Вашых мараў і задумаў. Хай вучні радуюць Вас поспехамі ў далейшай вучобе, працы і жыцці. Хай у калектыве, дзе Вы працуеце, заўсёды пануе атмасфера зычлівасці, узаемнасці, сяброўства. Добрага Вам здароўя, плёну у працы і грамадскай дзейнасці, шчасця ў асабістым жыцці.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**
**Алег Трусаў.**

*(Пра Таццяну Трафімчык чытайце на ст. 4.)*



# ПОШУКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў СУСВЕТНЫМ СЕЦІВЕ

**Што ні кажы, рэлігія – вялікая справа! Нават у дачыненні да нашай мовы.**

Паспрабаваў я неяк пагледзець, хто карыстаецца беларускай мовай у Інтэрнеце. А таксама высветліць, які попыт існуе на гэтую нашую мову. Дзеля аб'ектыўнай ацэнкі зайшоў не куды-небудзь, а на сайт, што вызначае наведвальніцкі рэйтынг усіх беларускіх Інтэрнэт-рэсурсаў **(http://poisk.open.by/rating/rate__t_sb_1.html)**. Нядоўга разважаючы, выбраў тры раздзелы: дзяржаўныя ўстановы, моладзь і рэлігія.

І затым у кожнай тэматычнай групе акуратна і цярпліва прагледзеў сайты, што знаходзяцца па частаце наведвання карыстальнікамі сусветнай павуціны ў першай дзесятцы. І вось якая карціна паўстала перад маімі вачыма (дадзеныя прыводзяцца на 25 кастрычніка).

Сярод сайтаў дзяржаўных установаў (http://poisk.open.by/rating/rate_0501_t_sb_1.html) найвялікшым попытам карыстаецца афіцыйны **сайт Менскага гарадскога выканаўчага камітэту**. А як жа інакш? Пераважная большасць карыстальнікаў Інтэрнэта жыве ў сталіцы і хоча ведаць, што ў ёй робіцца. Але ж інфармацыю ствральнікі сайта прапануюць толькі на рускай ці англійскай мове. На галоўнай старонцы вы адшукаеце адзіны сказ на мове беларусаў: **"Мінск – жыцця майго крыніца"**. Гэта назва свята горада, якое прайшло ў верасні.

На другім месцы па папулярнасці ідзе **сайт Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь**. І тут з самага пачатку адчуваеш, што цябе паважаюць: можна выбраць англійскую, беларускую альбо рускую мовы. На мове Караткевіча і Купалы вы можаце азнаёміцца з навінамі міністэрства, даведацца пра яго кіраўнічы склад і структуру. Таксама на сайце прадстаўлены гісторыя і фотаальбом, існуе магчымасць пошуку, а найбольш цікаўныя наведвальнікі могуць дасылаць свае пытанні. Адным словам, прыемна, што нас абараняюць людзі, якія не цураюцца адной з дзяржаўных моў.

На трэцім радку змяшчаецца афіцыйны **сайт Гомельскага гарвыканкаму**. Мусіць, па прыкладу сталіцы беларускую мову на сайт у найвышэйшай гомельскай установе вырашылі "не пушчаць". Нават калі ў вакне пошуку набраць слова **"беларускі"**, вельмі хутка па-руску да вас прыйдзе адказ: ***"Выбачайце, не знойдзена вынікаў па слову "беларускі"***. Калі не верыце, паспрабуйце, – можа вам пашчасціць, і вы ўбачыце іншы адказ.

Ніжэй за Гомельскі гарвыканкам размясціўся **сайт Берасцейскага абласнога выканаўчага камітэту**. Галоўная яго старонка ўся ў чырвона-зялёных танах, хочаце, глядзіце па-руску, хочаце, па-англійску. Але толькі не па-беларуску. Бышцам Берасцейская вобласць ужо далучылася да Расеі ці Еўразвязу.

Пяты прыступак займае **сайт Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Менгарвыканкаму**. Ён уражвае сваёй чарнатой: пасярод залацістых надпісаў, што нагадваюць гузікі на чорным мундзіры, красуецца эмблема МУС. На эмблеме надпіс: "БЕЛАРУСЬ. Міністэрства ўнутраных спраў". Больш нічога на беларускай мове там не бачна.

Потым у спісе папулярнасці якраз ідзе гэтае самае **Міністэрства ўнутраных спраў**. На шэрым фоне ягонага сайта ажно дзве эмблемы, але ўжо без беларускіх слоў. Напэўна, спраў унутры дзяржавы так многа, што пакуль што да беларускай мовы справы нікому няма.

Пад сайтам Міністэрства ўнутраных спраў месціцца сайт пад назвай **'батьке.net'**. Невядома, як ён апынуўся сярод дзяржаўных установаў, бо такую ўстанову адразу б закрылі, калі б яна была. Але хто б ні з'яўляўся аўтарам гэтага рэсурса, нас парадаваць ён не здольны: усё там пішацца па-расейску.

Восьмае і дзевятае месцы займаюць адпаведна **сайты Нацыянальнага цэнтра заканапраектнай дзейнасці і Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва нашай краіны.** Сайты вельмі карысныя, магчыма, у будучым яны пачнуць браць за свае звесткі грошы. Але пакуль аб заканапраектах можна даведацца бясплатна, на англійскай, нямецкай ці рускай мовах. На беларускай нават за грошы нельга. Няўжо немцаў сярод нас стала болей за беларусаў? Чаму ж тады заканатворцы не змагаюцца з акупацыяй? Тое самае і з Фондам сацыяльнай абароны: на англійскую мову зрабіць пераклад час знайшлі, а вось на беларускую сіл не хапае. Але ж калі Міністэрства абароны прыйдзе на дапамогу сваімі кадрамі, можа на гэтым фронце штосьці і зменіцца?

Замыкае дзесятку **сайт Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь.** Камунікуе ён з насельніцтвам ізноў жа толькі на рускай мове.

Наступнай тэматычнай групай была моладзь **(http://poisk.open.by/rating/rate_0505_ t_sb_1.html)**. Наверсе размяшчаецца сайт Беларускай федэрацыі кампутарнага спорту, ледзь адстае ад яго афіцыйны сайт менскай СШ № 65 імя Акрэсціна, за ім ідуць сайты пад назвамі "Прадленка", "Менскі студэнт", "Клуб знаёмств Архсон", апошні мае застаўку занадта сэксуальнага характару. У ніжняй частцы табліцы змяшчаюцца сайты "Сагрэй маё сэрца" (SMS-знаёмствы ў Беларусі), каманды "Разумнік" з Менску, факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ, "Дзеці БЛІК". Усе яны маюць агульную рысу – беларускай мовы на іх не бачна. Можа дзе ў глыбіні і хаваецца нешта, але часу поўзаць паўсюль не было. Вось такое становішча з моладдзю.

І напрыканцы дайшоў я да раздзелу **"Рэлігія" (http://poisk.open.by/rating/rate_0506_-t_sb_1.html)**. Адкрыў табліцу рэйтынгу і вачам сваім не паверыў. На першым месцы знаходзіцца сайт з беларускай назвай – **Часопіс "Наша Вера"** – 9529 наведванняў за ўвесь час існавання. Зайшоў я на яго. Божа ўладарны, насамрэч увесь змест па-беларуску! Сустракаюцца тры рускія словы, але яны надвор'я не робяць. Сайт адрасаваны тым, хто "прагне духоўнасці, хто хоча больш і глыбей ведаць пра хрысціянства ўвогуле і каталіцызм ў прыватнасці". Тут змешчаны разважанні тэолагаў, даследаванні па гісторыі Каталіцкага Касцёла на Беларусі, артыкулы навукоўцаў – мастацтвазнаўцаў, філолагаў, гісторыкаў, вершы і проза беларускіх і замежных аўтараў. Маецца архіў са шматлікімі папярэднімі нумарамі часопіса, галерэя, гасцёўня, спасылкі на іншыя каталіцкія сайты, у тым ліку на сайт Рыма-каталіцкага Касцёла на Беларусі **(Catholic.by)**, які займае другі прыступак у рэйтынгу рэлігійных сайтаў.

**Catholic.by** менш прывабны па знешнім выглядзе, але ўся інфармацыя на ім ізноў жа на мове нашых прадзедаў. І гэта выклікае прыхільнасць да звестак, што там даюцца. А сярод іх разнастайныя навіны Касцёлу: па Беларусі, з Ватыкана, замежжа. Найбольш прыцягнула маю ўвагу паэзія Яна Паўла ІІ на беларускай мове. Ніколі б не змог сваёй галавой уявіць, што такое можа здарыцца!

У сайт **Беларускага хрысціянскага інфармацыйна-аналітычнага выдання**, якому пашчасціла апынуцца на трэцім месцы, па ўсёй верагоднасці, ўсяліўся д'ябал. Там няма нічога, што б мела дачыненне да хрысціянства ці звязанай з ім аналітыкі. Замест гэтага ён нахабна выдае рэкламу прафесійнага хостынгу на чыстай рускай мове. Каб на беларускай, дык яшчэ можна было б паразважаць, можа гэта і не д'ябал? А калі скрозь адна камерцыя, дый татальна па-расейску, тут усё зразумела: д'ябал гэта, цьфу, нячысты!

Можа беларуская мова чакае мяне на чацвёртым прыступку? Не, тут месціцца сайт евангельскіх хрысціян-баптыстаў **Евангелле для Беларусі**. Добрыя людзі гэтыя баптысты, здольныя да моваў ў нейкай ступені, бо ведаюць не толькі рускую, але і англійскую мову. Вось толькі беларускай пакуль што авалодаць не ў стане. Але ж з часам усё будзе, Бог дапаможа.

Пятае месца – **Віцебская епархія Беларускага Экзархату Рускай Праваслаўнай Царквы.** Першыя тры радкі галоўнай старонкі сайта напісаны на беларускай мове, астатняя – на рускай. Можа, і досыць для Рускай Царквы, і на гэтым ёй дзякуй.

Шосты радок займае **сайт Авеста**, які прысвечаны "найстаражытнейшай сусветнай рэлігіі – зараастрызму". На жаль, пра Ахура Мазду можна прачытаць толькі на рускай мове. Праўда, зроблена заўвага, што адбываецца стварэнне англійскамоўнага варыянту, можа за ім надыйдзе чарга і беларускага?

Пры націсканні **сайта Хрысціянскага Медыцынскага Серверу**, што значыцца на сёмым радку, адчыняецца зусім іншы сайт – http://www.peterhost.ru/. Там намалявана маладое, упітае ў цябе пранізлівым позіркам, парася з подпісам: "Даміны бясплатна пры аплаце за тры месяцы". Вядома ж па-руску. Вось табе і медыцынскі сервер. Бышцам нейкія дзіўная псіхатэрапеўтычныя высілкі. Ды не чалавечых рук, але безумоўна ведзьмяцкіх. Нездарма такі нетлумачальна высокі рэйтынг!

На восьмым прыступку зноў знаходзяцца **каталікі**. Не абы-якія, а маладыя. Дызайн сайта, як і характэрна маладым, нестандартны: на чырвонай паласе справа тры заклікі: ***Слухай сваё! Любі сваё! Лістуй сваё!*** Пасярэдзіне на англійскай мове надрукавана: ***"Англійская версія не даступна. Вучыце, калі ласка, беларускую..."***. Вось які смелы наступ на заходнюю экспансію, аж гонар за нацыю бярэ! А мне ўжо здавалася, што моладзь у віртуальнай прасторы ўжо скарылася са сваім гаротным лёсам. Не, пакуль жывуць каталікі, не будзе такога ніколі.

Трымацца на перадапошнім радку выпала на долю дайджасту **"Любіце адзін аднаго"**. Гэта назва культурна-рэлігійнага часопіса для моладзі, пераклад матырыялаў з польскай мовы якога каардынуе Мінска-Магілёўская архіепархія Рыма-Каталіцкай Царквы. Пераклад ідзе чамусьці толькі на рускую мову. На маю асабістую думку, каталікі такім чынам выконваюць закон аб раўнапраўным статусе дзвюх моў у нашай дзяржаве. Чаго зусім не пашкодзіла б прытрымлівацца і іншым рэлігійным канфесіям, а таксама дзяржаўным установам, калі яны не хочуць у будучым мець пытанняў з пракуратурай Рэспублікі.

Ну і апошні радок мяне незвычайна ўсхваляваў. Малавядомая для Беларусі канфесія– **суполка Бахаі** – свой афіцыйны сайт падтрымлівае на трох мовах, прычым беларуская з'яўляецца галоўнай. Вера Бахаі, якая заклікае да адзінства чалавецтва, не перакрэслівае, як гэта бачна, ні культурных, ні моўная яго здабыткі. Доказам з'яўляюцца пераклады малітваў Бахаі на нашую мову. На сайце можна сустрэць дыяграмы, фотаздымкі, дзіцячыя малюнкі. Робіцца ясна, што ёсць на свеце рэлігіі, якія вядуць да ўзбагачэння, а не да збяднення культурнай скарбніцы народаў.

Казаў жа я вам напачатку, што рэлігія – вялікая справа.

З павагай,

***Васіль Панаддзвінскі.***

**Міністэрства замежных спраў Латвійскай Рэспублікі**
**20 лістапада 2003 года № 25\1051-9023**
**На ліст № 32-L ад 27.08.03**

**Рада Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак"**

Міністэрства замежных спраў уважліва пазнаёмілася з Вашым лістом, у якім Вы выказваеце занепакоенасць закрыццём у Менску Нацыянальнага дзяржаўнага ліцэя імя Я. Коласа і просіце давесці да ведама кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь неабходнасць аднавіць працу гэтай навучальнай установы. Мне даручана Вас інфармаваць пра наступныя адносіны Латвійскай дзяржавы да гэтага пытання.

Палітыка ў галіне адукацыі – гэта ўнутраная справа кожнай дзяржавы, іншыя краіны не маюць права ў яе ўмешвацца. Адначасова, на падставе занепакоенасці беларускай дыяспары Латвіі гэтай сітуацыяй, дэпутаты Латвійскага Саэйма і прадстаўнікі МЗС выказалі сваё здзіўленне і заклапочанасць беларускаму боку такім прынятым кіраўніцтвам Беларусі рашэннем і заклікалі ацаніць магчымасць аднавіць працу ліцэя, што неабходна для захавання свабоды слова і поглядаў, а таксама правоў на адукацыю Група дэпутатаў Саэйма гэты погляд выказала ў лісце кіраўніку групы Беларускага Нацыянальнага Сходу па супрацоўніцтву з Латвіяй Т. Быкавай. Міністр замежных спраў ЛР С. Калніетэ згаданае пытанне актывізавала ў размове з Міністрам замежных спраў РБ С. Мартынавым. Пра закрыццё ліцэя імя Я. Коласа ішла размова і ў рамках іншых сустрэч дыпламатаў Латвіі і Беларусі.

Адначасова хацелася б інфармаваць, што МЗС будзе гатовым прыняць прапановы і ідэі Вашага Таварыства аб магчымых праектах па супрацоўніцтву з выкладчыкамі і выхаванцамі зачыненага ліцэя, а таксама ў нашай кампетэнцыі і магчымасцях падтрымаць рэалізацыю такіх магчымых праектаў.

**З павагай, намеснік дзяржаўнага сакратара А. Тэйкманіс.**

# НОВЫЯ ПАДАРУНКІ З АНГЕЛЬШЧЫНЫ

Бібліятэка Таварыства Беларускай Мовы зноў папоўнілася рэдкімі эміграцкімі выданнямі. Міхась Швэдзюк, працягваючы сваё добрае пачынанне, даслаў з Лондану на Беларусь каля 40 кнігаў, а таксама падшыўкі газеты "Беларус" – адной з самых знакамітых і ўплывовых на эміграцыі.

Нагадаем, што ў траўні Бібліятэка ТБМ атрымала ў падарунак ад сп. Міхася амаль 90 каштоўных кнігаў 1940-1970 гг. Гэтым разам сярод дасланых матэрыялаў ёсць, як выданні мінулых гадоў, так і друкаванае ў апошнее дзесяцігоддзе, у прыватнасці – БІНІМ-аўскія тамы з серыі "Беларускія пісьменнікі", а таксама "Архівы БНР" (1998 г.) у двух тамах.

Прыемна адзначыць, што свой унёсак у папаўненне фондаў эміграцкай літаратуры зрабіў і а. Аляксандар Надсан. Сярод дасланых ім кнігаў – літаратурна-мастацкія, мемуарныя, лексікаграфічныя і рэлігійныя выданні: Глыбінны У. "На берагах пад сонцам" (Нью-Ёрк, 1970), Малецкі Я. "Пад знакам пагоні" (Таронта, 1976), Германовіч .Я. "Кітай, Сібір, Масква" (Мюнхен, 1962), Варлыга А. "Краёвы слоўнік Лагойшчыны" (Нью-Ёрк, 1970), Надсан А. "Сьвяты Кірыл Тураўскі" (Лондан, 1968).

Выказваем шчырую падзяку нашым фундатарам і запрашаем чытачоў у Бібліятэку ТБМ.

***Таццяна Вабішэвіч.***

# Любімая настаўніца, адданая дачка свайго народа

Кожную раніцу многія слонімцы бачаць, як імклівай маладой паходкай крочыць па Брэсцкай вуліцы г. Слоніма ў кірунку сярэдняй школы № 10 настаўніца беларускай мовы і літаратуры Трафімчык Таццяна Уладзіміраўна.

Загледзеўшы яшчэ здалёк сваю настаўніцу, група хлопчыкаў і дзяўчынак наперагонкі бягуць сустрэць яе, паднесці даволі ёмкі партфель, дзе сшыткі з іх першымі пробамі сваіх сіл у прыгожым пісьменстве.

- Ну як я напісаў свой першы верш. Якім ёну мяне атрымаўся?

- Скажу адно: усе добра пастараліся. Аб гэтым будзе асобная гаворка ў час заняткаў нашага гуртка "Ветразь надзеі, - гаворыць, усміхаючыся, настаўніца.

Школьны званок кліча ўсіх у клас за парты. Урок роднай мовы – любімы прадмет вучняў. Настаўніца ўмее так настроіць і арганізаваць вучняў, падабраць такія прачулыя запамінальныя словы, што сухія правілы граматыкі жывуць у добрай згодзе з узнёслымі словамі і запамінаюцца тут жа на ўроку надоўга, а многія і назаўсёды.

Вось толькі адзін прыклад:

***Калі насоляць мне парою,***
***Хачу зрабіць***
***паспешны крок,***
***Ды раптам чую за спіною:***
***- Ты не перасалі, сынок.***

Тут вучні лёгка знаходзяць словы з пераносным значэннем, а ўрок праходзідць рухава, і цікава.

На кожным сваім уроку Таццяна Трафімчык падбірае такі матэрыял з мастацкай літаратуры, каб паказаць багацце нашай мовы, гнуткасць слова, яго музыкальнасць і непаўторную чароўнасць.

У вучняў паступова складваецца разуменне, што мова наша нічым не горшая за іншыя мовы, што на ёй можна выказаць самыя высокія пачуцці і раскрыць любую навуковую тэматыку.

Ды і самі вучні старэйшых класаў бачаць, што размаўляць у наш час на беларускай мове – адзнака высокай інтэлігентнасці.

Урокі – гэта толькі пачатак работы настаўніцы, каб яе вучні авалодалі як мага большым багаццем мовы. Працяг – гэта работа ў творчых гуртках, адным з якіх з'яўляецца "Ветразь надзеі".

Тут разам з настаўніцай вучацца пісаць вершы юныя паэты. Настаўніца вучыць іх, і сама вучыцца. І прыходзяць поспехі. Калі Слонім адзначаў свой 750 юбілейны год, сябры гуртка "Ветразь надзеі" на гарадской плошчы разам з настаўніцай Трафімчык чыталі свае вершы і былі прыхільна сустрэты шматлікай удзячнай публікай.

Гурткоўцы ў 2002 г. прымалі ўдзел у святкаванні 92-ых угодкаў з дня народзін Ларысы Геніюш, якое праходзіла ў Зэльве. Дзве вучаніцы з гуртка "Ветразь надзеі" атрымалі пуцёўкі ў летнік "Зубраня".

Трафімчык Юля і Санько Віка атрымалі пуцёўкі ад Таварыства беларускай школы, куды былі накіраваны сачыненні дзяўчынак, прысвечаныя роднай мове. Па выніках конкурсу дзяўчынкі былі прэміраваны пуцёўкамі.

За сем год работы гуртка "Ветразь надзеі" па творчай дзейнасці ў напісанні вершаў, празаічных мініяцюр, абразкаў прайшло гэтую школу навукі каля ста чалавек.

У канцы 2001 г. Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне ТБШ, якое ўзначальвае Алесь Лозка, правodзіла конкурс школьных і вучнёўскіх газет. Вучнёўская газета Таварыства беларускай мовы гуртка "Ветразь надзеі" СШ № 10 г. Слоніма ўзнагароджана дыпломам II ступені.

Таццяна Уладзіміраўна карэспандэнт многіх перыядычных дэмакратычных выданяў. Яна часта змяшчае свае допісы ў "Слонімскай газеце", "Настаўніцкай газеце", газеце "Наша слова" і ў часопісе "Беларуская мова і літаратура ў школе".

Вось толькі некаторыя з іх.

"Настаўніцкая газета": 1. "Клікаў шчасце, клікаў сонца" (аб паэме Я. Купалы "Тарасова долы" – уласны погляд праз асабістае ўспрыйманне). 2. "Праўдай слова да ісціны". 3. "Пагаворым аб каханні". "Вучыліся творчасці". 4. "Каб душою адрадзіцца" – рэцэнзія на зб. вершаў Алены Руцкай "Роздум".

А артыкул "...Столькі разоў чалавек" стаў перадавіцай у "Настаўніцкай газеце" перад навучальным годам.

Часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе" змясціў артыкул "Слова-інструмент думкі"

Газета "Наша слова": 1. "Гэта крык, што жыве Беларусь" (рэцэнзія на зб. Вершаў Васіля Супруна "Крык"). 2. "Праграма выхавання нацыянальна свядомай асобы". 3. "Беларуская мова і мы" (гутарка з маласвядомымі беларусамі). 4. "Ці патрэбна беларусам беларуская мова?" 5. "Трэба ісці з жывым словам да народа".

Ужо колькі год Таццяна Трафімчык разам са сваімі сябрамі-аднадумцамі з суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якую яна ўзначальвае многія гады, б'ецца, як рыба аб лёд, каб наладзіць канструктыўны дыялог з кіраўнічымі чыноўнікамі мясцовага выканкаму. Пакуль што застаецца непрабіваная глухая сцяна адчужанасці да беларускай школы ў горадзе. Чыноўнікі служаць у нас не Беларусі, а кіраўніку з царскімі паўнамоцтвамі. Так і жывём ізгоямі ў сваёй дзяржаве – Рэспубліцы Беларусь – з якой выгналі саму Беларусь.

Парадаксальна. У час акупацыі Беларусі нямецкімі фашыстамі ў Слоніме ўсе школы былі беларускімі. Цяпер калі Беларусь стала незалежнай сувярэннай дзяржавай, у Слоніме няма ні адной школы з дзесяці дзейных на беларускай мове. Так не толькі ў Слоніме, а па ўсёй Беларусі.

Вывад напрошваецца сам сабою: усе размовы аб патрыятызме да Беларусі высокіх кіраўнічых асоб пустыя, крывадушныя.

Але настаўніца Таццяна Трафімчык не апускае рукі, бярэ ўдзел у пяці навуковых канферэнцыях, удзельнічае ў рэспубліканскім і міжнародным Купалаўскіх чытаннях з тэматычнымі дакладамі.

У зборніку "Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні" змешчан артыкул настаўніцы "Развіццё творчых здольнасцяў школьнікаў у працэсе вывучэння спадчыны Я. Купалы". Ужо дзесяты год з'яўляецца настаўніца Трафімчык кіраўніком раённай секцыі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры і карыстаецца заслужаным аўтарытэтам, павагай і любоўю сваіх калег.

Скончыла аспірантуру пры Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце. Цяпер завяршае працу над дысертацыяй на навуковую ступень па тэме: "Развіццё творчых здольнасцяў вучняў пры навучанні паэзіі"

Што рухае няўрымслівай натурай настаўніцы Трафімчык? Моцная любоў да беларушчыны, якой хопіць на многія родныя душы сваіх землякоў. Разварушыць сон нацыі можна толькі дзейнасцю на карысць роднай мовы, калі ты гарэла любоўю і нясеш гэтую любоў да нашага кута іншым. Многія малаверы задаюць іншы раз гэтай цудоўнай жанчыне пытанне: "Паглядзіце: у Слоніме ўсе школы рускія, усе установы працуюць на расейскай мове. Маўчаць беларусы, не патрабуюць сваёй школы на роднай мове. На што вы спадзеяцеся:" – "Мы спадзяемся на Бога, на ісціну любові, на сваю зямлю і народ. Больш нам няма на каго спадзявацца. За беларускай мовай любоў і гістарычная праўда. А гэта, паверце, нямала. Родная мова мне дадзена Богам, інакш не назавеш той цуд любові, які творыцца ва мне ад зносін з родным словам. А тое, што наша мова ад Бога, сведчыць той факт, што, каб гаварыць на гэтай мове ў рускім асяроддзі, трэба ахвяраваць сябе на прыніжэнне абывацеляў, якія лічаць чалавека разумова абмежаваным, калі ён гаворыць па-вясковаму, па-беларуску.

Усякае прыніжэнне і цярпенне – ад Бога, бо Хрыстос, Божы Сын, быў прыніжаны гэтак, як ніхто. Вось чаму, каб жыццё нашае мовы было доўгім, трэба не баяцца пераступіць праз гонар. Тады вы больш набудзеце, чым страціце. Паверце мне з жыццёвага досведу.

Па-першае, вы адчуеце, што ўсё стала на сваё месца: справядлівасць, ваша душа, спакой у ёй.

Па-другое, вы набудзеце такіх сяброў, аб якіх і не марылі, гэта будуць аднадумцы, нават, аднадумныя з вамі людзі. Чаму я размаўляю па-беларуску? Я шмат выпакутавала за гэтую мову, шмат даведалася аб ёй праз адданае служэнне роднаму слову ўсё сваё свядомае жыццё. Таму я абавязана гаварыць на гэтай мове ўсюды, каб даваць сілу і ўпэўненасць у сябе іншым беларусам, хто зняверыўся".

23 снежня ў Таццяны Трафімчык юбілей. Ёй 50 год. Пажадаем юбіляру моцнага здароўя, здзяйснення ўсяго задуманага ў сеянні разумнага, добрага, вечнага на карысць Беларусі і яе народа.

***Мікола Ракевіч.***

**БЕЛАРУСЬ**

***Забраны край і згвалтаваны***
***Рукой тырана-ваяра,***
***Смыляць***
***у сэрцы краю раны***
***І льецца кроў ад рук "цара".***

***Сусед-спакуснік***
***на дабротах,***
***Што люд наш дорыць***
***усім жывым,***
***З нас выпіў шмат крыві***
***і поту,***
***На крыж распяў,***
***што стаў святым.***

***Імперыя цароў расейскіх***
***Паліла, нішчыла народ.***
***Здзнішчала ўсіх***
***з кагорты "свойскіх",***
***Хто славіў свой***
***славуты род.***

***Бальшавікі і сталіністы***
***Людзей выпальвалі свінцом***
***Той Беларусі,***
***што ўрачыста***
***Спраўляла звычаі дзядоў.***

***Вайна сваёю мясарубкай***
***Знішчала лепшых, хто любіў,***
***А НКУС па гарадах і вёсках***
***Народа ворагаў душыў.***

***Чарнобыля ўдар пад сэрца,***
***Аблокі сталі над Зямлёй,***
***Стралялі ў іх,***
***каб подых смерці***
***Навіс над кожнаю сям'ёй.***

***Краіна, над якой праклянце,***
***Цудоўны кут маіх дзядоў,***
***Краіна гора і няшчасця,***
***Калі ўваскрэснеш***
***ты наноў?!***

***Таццяна Трафімчык.***

## Віншаванне з 75-гадовым юбілеем вучонага з сусветным імем, віцэ-прэзідэнта Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага

Паважаны Радзім Гаўрылавіч, сардэчна віншуем Вас з 75-годдзем жыццёвага шляху, жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою, сямейнага шчасця, каб кожны новы дзень нёс Вам новыя радасці, новую ўдачу ў Вашай рознабаковай грамадскай дзейнасці, у здзяйсненні жыццёвых планаў.

Прадстаўнікам розных пакаленняў Гарэцкіх давялося незаслужана прайсці маральныя, фізічныя выпрабаванні за Беларусь, і кожны раз прадстаўнікі гэтага слаўнага роду, выяўлялі нязломную сілу духу, волі, безмерную любоў да Беларусі.

Ваш бацька Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, незаконна асуджаны на многія гады высылкі з Радзімы, цудам пазбегнуў расстрэлу, запісаў у сваім дзённіку: "З кіем старэцкім, але прыйсці на Радзіму". Гэта ўрок нам, беларусам, як трэба жыць і любіць сваю Беларусь! Магутныя карані дрэва роду Гарэцкіх пранізалі беларускую зямлю, яе сейбітаў багаццем разумовага інтэлекту, непахіснай сілай духу, тытанічнаю працаю сцвярджэння і станаўлення беларускай нацыі.

Гэта акрыляе і ўсяляе надзею і веру ў шчаслівую будучыню Беларусі.

Многія лета Вам, вельмішаноўныя Радзім Гаўрылавіч!

**Каляда Н. Хв., настаўніца, сын Віталь.**
**Г. Менск.**

## ПАДРЫХТАВАНА АНТАЛОГІЯ "ТВОРЧАЯ СПАДЧЫНА НАРОДНАГА АРТЫСТА СССР У. МУЛЯВІНА І АНСАМБЛЯ "ПЕСНЯРЫ"

Менск, 11 снежня. Падрыхтавана анталогія "Творчая спадчына народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна і ансамбля "Песняры".

Як паведаміла БелаПАН прэс-сакратар Міністэрства культуры Алена Рыжыкава, анталогію падрыхтаваў творчы калектыў Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры. Яна ўяўляе сабою зборнік аўдыёзапісаў на 20 кампакт-дысках, у які ўвайшлі 234 творы. Сярод іх — беларускія народныя песні ў апрацоўцы ансамбля "Песняры", ваенныя песні, песні Ігара Лучанка ў выкананні ансамбля, песні ўдзельнікаў ансамбля, песні савецкіх кампазітараў у выкананні ансамбля "Песняры" і іншыя. Анталогія ахоплівае ўвесь перыяд дзейнасці калектыву ў адпаведнасці з храналагічнай паслядоўнасцю творчага развіцця. У ёй прадстаўлены тэматычныя праграмы, аўтарскія кампазітарскія зборнікі песень У.Мулявіна і ўдзельнікаў ансамбля "Песняры". Кожны кампакт-дыск суправаджаецца кароткай літаратурнай анатацыяй, якая апісвае прадстаўлены зборнік, і аформлены адпаведнымі фотаматэрыяламі.

Апрача таго, рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам "Беларускі відэацэнтр" створаны дакументальны відэафільм пра Уладзіміра Мулявіна "Гучанне жыцця".

***Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ, БелаПАН.***

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫКАНТЫ ПАВІННЫ СПЯВАЦЬ НА РОДНАЙ МОВЕ, ЛІЧЫЦЬ ВЯДОМЫ РОК-МУЗЫКАНТ А.ПЛЯСАНАЎ

Вядомы беларускі рэжысёр, мастак, паэт, кампазітар, калекцыянер і музыкант, кіраўнік рок-гурта "P.L.A.N" Андрэй Плясанаў лічыць, што айчынныя музыканты павінны спяваць на роднай мове. Пра гэта ён заявіў 11 снежня на прэс-канферэнцыі, прымеркаванай да прэзентацыі новага альбома гурта "Вам слова, Джон Ячмень", якая адбылася ў менскім клубе "Алькатрас".

Паводле слоў музыканта, выкананне на англійс-кай мове "было пазбаўлена ўсялякага сэнсу, на рускай — я спрабаваў яго данесці". "Зараз і назаўсёды я перайшоў на беларускую мову, бо тэкст для мяне з'яўляецца найважнейшым элементам песні. Я аддаю перавагу беларускай мове перад рускай, таму што апошняя з'яўляецца мовай замежнай. Беларускія музыканты не павінны пладзіць расійскіх клонаў", — лічыць А. Плясанаў.

Хіты з новага альбома ("Ой, Дуся, Дуся!" і "Маё пакаленне") добра вядомыя прыхільнікам блюзу і рок-н-ролу. Гэта другі альбом гурта сёлета, а першы — "Blues у канцы тунэлю" — выйшаў у студзені. Акрамя таго, на дыску прадстаўлена поўнафарматная выстава твораў жывапісу А. Плясанава і экспазіцыя, прысвечаная яго 55-годдзю.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

# ЮБІЛЕЙНАЕ СВЯТА ЛЮДМІЛЫ ДЗІЦЭВІЧ

У жыцці кожнага чалавека юбілей – гэта не толькі асабістае свята, калі апынаешся ў цэнтры ўсеагульнай увагі і прымаеш віншаванні, і не толькі крыху сумная дата, калі ўсведамляеш незваротнасць пражытых гадоў, але гэта і пэўны момант ісціны, дзень, калі мусім даваць справаздачу: хто ты і чаго варты; і тое, як ён праходзіць, у значнай ступені дае адказ на гэтыя пытанні.

14 лістапада ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры адбылася святочная вечарына з нагоды 50-гадовага юбілею спадарыні Людмілы Дзіцэвіч, ст. выкладчыка кафедры беларускай філалогіі ("Наша слова" ужо змяшчала прысвечныя ёй віншавальныя матэрыялы ў № 40). Імпрэза атрымалася надзвычай прадстаўнічая, яна яскрава высвеціла значнасць, шматграннасць і непаўторнасць асобы Людмілы Дзіцэвіч як выдатнага педагога, актыўнай грамадскай дзяячкі, цудоўнай маці, цікавага, абаяльнага чалавека, нарэшце, прыгожай жанчыны з невычэрпным запасам энергіі і маладосці.

У парушэнне ўстаялай традыцыі, спадарыня Людміла пажадала сама весці сваю вечарыну – як нязменная арганізатарка і вядоўца шматлікіх афіцыйных і святочных мерапрыемстваў. Артыстычная, па-еўрапейску свабодная і раскаваная, абаяльная, яна ў гэты вечар была не толькі "віноўніцай", але і сапраўднай гаспадыняй свята, якое доўжылася амаль дзве гадзіны, на працягу якіх яна прадстаўляла гасцей, прымала віншаванні, кветкі, вершы і песні, прысвечаныя ёй.

На адкрыцці імпрэзы з віншавальнымі словамі да юбіляркі выступілі загадчык кафедры беларускай філалогіі Вольга Гуліцкая і дэкан факультэта інфармацыйна-дакументальных камунікацый Мікалай Яцэвіч. У іх выказваннях была дадзеная высокая ацэнка дзейнасці Людмілы Дзіцэвіч як педагога, прызнанне прафесіяналізму і педагагічнага таленту, дзякуючы якому яна ўмее зрабіць свой прадмет цікавым і прывабным для студэнтаў, перадаць ім сваю любоў да роднай мовы, да беларушчыны. Загадчык кафедры менеджменту Святлана Зігмантовіч і калегі падаравалі ёй фікус-любімы мамін вазон, які здаўна быў упрыгожаннем вясковай хаты спадарыні Людмілы.

Спадарыня Людміла расказала гасцям пра сваю сям'ю, пра тыя традыцыі, што існавалі ў іх сям'і і паўплывалі на фармаванне яе асобы. Яна назаўжды захавала ў сэрцы любоў да сваіх бацькоў і ўдзячнасць ім, піша пра іх успаміны, складае свой радавод. На вечарыне прысутнічаў адзін з двух яе братоў Рычард, а таксама дачушка Юля, з якой спадарыня Людміла пазнаёміла прысутных і расказала некалькі досціпаў з часоў яе дзяцінства – тых смяшынак-залацінак, якія так лёгка ствараюць дзеці ў сваёй непасрэднасці. Сёння Юля ўжо дарослая (вучыцца ў лінгвістычным каледжы № 24), вельмі мілая, інтэлігентная дзяўчына, аднадумца і памочніца маці.

На заканчэнне свайго аповеду пра сям'ю спадарыня Людміла, якая мае добры голас і вельмі любіць спяваць, праспявала любімую песню маці "Цячэ рэчанька"

Гаспадыню свята віншавала Нацыянальная Акадэмія Навук у асобе кандыдата філалагічных навук, супрацоўніка Інстытута літаратуры Яўгена Гарадніцкага. Сп. Яўген быў аднакурснікам Людмілы падчас вучобы ў БДУ, а сама яна калісьці пачала сваю навуковую кар'еру ў Акадэміі – вучылася ў аспірантуры. На вечарыне таксама прысутнічаў і выступаў яшчэ адзін аднакурснік спадарыні Людмілы – Рычард Саматыя, яе калега па кафедры беларускай філіогіі БДУ культуры. І, безумоўна, вялікім гонарам для юбіляркі была прысутнасць і віншаванне акадэміка Радзіма Гарэцкага, які, як вядома, з'яўляецца сябрам Рады Таварыства беларускай мовы.

Запрошаны на вечарыну народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч асабіста прысутнічаць, на жаль, не мог. Але даслаў віншавальную тэлеграму, якая і была зачытаная. З славутым паэтам спадарыню Людмілу лучыць не толькі супраца ў Таварыстве (Ніл Гілевіч, як вядома, быў яго першым старшынём, цяпер сябра Рады), але і памяць пра студэнцкія гады ў БДУ – Ніл Сымонавіч быў яе выкладчыкам, куратарам групы, у якой яна вучылася.

Прымала віншаванні Людміла Дзіцэвіч і ад Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, дзе яна таксама выкладае беларускую мову. З віншавальнымі словамі выступіла спадарыня Алена Новікава, дарадца рэктара ЕГУ.

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў і яго намеснік, старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, галоўны рэдактар газеты "Новы час" Алена Анісім дзякавалі юбілярцы ад імя Таварыства за шматгадовы плённы ўдзел у яго жыцці і дзейнасці. Спадарыня Дзіцэвіч, як вядома, з'яўляецца першым намеснікам старшыні ТБМ, сябрам рэдкалегіі газеты "Наша слова". Яе самаадданая, нястомная праца ў Таварыстве, яе заслугі перад ім вартыя, безумоўна, найвышэйшай адзнакі.

Прыйшоў павіншаваць спадарыню Людмілу і былы старшыня ТБМ, паэт Генадзь Бураўкін. Ён быў выбраны на гэтую пасаду ў складаныя для Таварыства часы (1997 год), калі яно было, бадай, на на мяжы закрыцця, але дзякуючы разумным, дыпламатычным і настойлівым дзеянням старшыні, яго намесніка і сяброў ТБМ, удалося адрадзіць арганізацыю, каб і сёння, у такі нялёгкі для нашай мовы, час, яна дзеяла і прыносіла свой плён.

Нястомную руплівую на ніве беларушчыны прыйшлі віншаваць і іншыя паэты. Шмат узнёслых, зычлівых, паэтычных словаў прысвяцію юбілярцы калега, паэт Анатоль Майсеенка, падараваўшы спаданыні Людміле прысвечаны ёй верш. Паэт Леанід Дранько-Майсюк падараваў ёй свой зборнік твораў з паэтычным прысвячэннем.

Віншаванне кіраўніка тэатра "Зніч" Галіны Дзягілевай было па-жаночы цёплым, лірычным. Стваральніца тэатра аднаго актора пастаянна супрацоўнічае з Таварыствам беларускай мовы – удзельнічае ў яго мерапрыемствах, святочных імпрэзах, многія з якіх праводзіліся ў памяшканні тэатра "Зніч". Да таго ж, з Людмілай спадарыню Галіну звязваюць цёплыя сяброўсія адносіны.

Прысутнічала на вечарыне і віншавала юбілярку спадарыня Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа і Янкі Маўра, старшыня дзіцячага фонду "Сакавік". Людміла Дзіцэвіч шмат гадоў прымае чынны ўдзел у дзейнасці фонду – суправаджае групы дзяцей за мяжу.

Вялікую радасць даставілі педагогу Людміле Дзіцэвіч віншаванні ад яе выхаванцаў – выпускнікоў і студэнтаў БДУ культуры. Ад імя выпускнікоў універсітэта, якія прыйшлі на вечарыну цэлай групай, слова трымала адна з найлепшых былых навучэнак Людмілы Мікалаеўны Тацціяна Вабішчэвіч, цяпер ужо аспірантка, загадчыка бібліятэкі Таварыства беларускай мовы і сябра сакратарыяту ТБМ. А студэнты груп 239 і 539 падрыхтавалі да гэтага свята цэлыя спеўна-паэтычныя кампазіцыі (у чым, дарэчы, прадэманстравалі добрую моўную падрыхтоўку).

На завяршэнне свята кафедра беларускай філалогіі на чале з загадчыкам кафедры спадарыняй Вольгай Гуліцкай правяла "Кругавуху" – старадаўні беларускі шляхецкі абрад, якім звычайна заканчваліся святы. Кожны яе ўдзельнік выказаў юбілярцы свае зычэнні ў афарыстычна-паэтычнай форме.

Святочную імпрэзу на ўсім яе працягу аздаблялі і разнастайныя музычныя выступы. Студэнтка 5 курса Юля Мурашка праспявала "Песню пра маці". Вядомы беларускі бард Алесь Камоцкі выканаў у гонар гаспадыні свята песню-баладу. Зачараваў усіх прысутных цудоўным галасам вучань гімназіі № 5 Вадзім Дудаладаў – ён праспяваў на італьянскай мове песню "Я італьянец" – у напамінак пра Італію, у якой спадарыня Людміла гасцявала колісь з групай дзяцей і якую моцна палюбіла. Вакальны гурт "Жаба ў каляіне" (Васіль Дранько-Майсюк і Максім Іўкін) уразілі і развесялілі публіку выкананнем песні "Жана Маро" з элементамі харэаграфіі.

А закончыў вечарыну (адразу пасля "Кругавухі") выступ фальклорнага гурта "Грамніцы" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Зяневіч). З гэтым гуртом спадарыню Людмілу звязвае і любоў да беларускай народнай песні, і памяць пра сумесную паездку ў 2001 годзе ў Вялікабрытанію на міжнародны фестываль фальклорных гуртоў.

Калі гурт распачаў спевы і танцы, то ў вялікай і, прызнацца, халаднаватай аўдыторыі, дзе праходзіла вечарына, здаецца, пацяплела. Ногі самі запрасіліся ў скокі. То й не дзіва, што гаспадыня вечарыны не вытрымала і далучылася да дзяўчат-спявачак і танцорак, з непараўнальнай пластычнасцю і грацыяй уплялася ў іхні карагод, так што публіка аж узнагародзіла апладысментамі.

Дай жа Бог спадарыні Людміле і надалей не страчваць аптымізму, юнацкага запалу, энергіі і жыццялюбства, трываласці і працавітасці, смеласці і адвагі, каб ці далей нястомна рухацца ўперад і пакараць усё новыя вяршыні!

Прысвечаныя Людміле Дзіцэвіч вершы прыводзім ніжэй.

*Святлана Багданкевіч.*

*Мікола Лавіцкі*

### Акраверш

ДЗІЦЭВІЧ ЛЮДМІЛА
Здаўна сваёй мілай
Іскрыстай усмешкай
мяне пакарыла.

Цяпер у палоне,
Эх, быць мне да скону,
Вітаць яе нізкім да долу паклонам
І слухаць прамовы,
Чароўныя словы.

Лагодна ў далоні пляскаць
я гатовы.

Юнацкая сіла –
ДЗІЦЭВІЧ ЛЮДМІЛА.
Магутнай такою
Радзіма стварыла...
І служыць бясконца
Любімай староньцы:
Адточаны меч падае абаронцам.

*Анатоль Майсеенка*

### ЮБІЛЕЙНАЕ

Бывае так панылa,
Як згаснуць зоркі ўсе.
А зазірне Людміла
І сонца прынясе.

І неба зноў сінее,-
Гатоў ісці ў паход,
Хоць ты не Дульсінея,
А я не Дон Кіхот.

Беларуска – не за грошы,
Руплівка ад душы,
Прыгожай і харошай
У старасць не спяшы.

Ісці нам супраць ветру,
Ён доўга будзе дзьмуць...
Прайдзі шмат кіламетраў
І найшчаслівай будзь!

### Прысвячэнне на зборніку Леаніда Дранько-Майсюка "Вершы. Каханне. Проза"

Сказаў бы Караткевіч,
А сёння гэта я кажу.
У прыгажосці – стыль Дзіцэвіч,
Я ведаю і не хлушу...

*Святлана Багданкевіч*

### Людміле ў дзень 50-годдзя

Наканавана нам яднанне –
Дзеля жыцця, дзеля добра.
Ты ўсім, абраным на змаганне,
Вышэйшай годнасці сястра!

І гарт, і сілу набываеш,
Калі спрабуе час на злом.
Ты ўсіх, хто побач, саграваеш
Сваёй жаноцкасці цяплом.

Не аддамо мы ліхадзею
Сваёй зямлі, сваіх нябёс!
Ты дорыш нам усім надзею
На роднай мове шчасны лёс

Ідзеш ты бальшаком, не сцежкай,
І чын твой адусюль відзён!
ЖАНЧЫНЕ
З ВЕТЛІВАЙ УСМЕШКАЙ
Я зычу доўгіх, светлых дзён!

# Семдзесят гадоў Зінаідзе Мажэйка



Многія добра памятаюць канцэрты ў Менску, што давалі народныя спевакі з палескай вёскі Тонеж. Многія добра памятаюць аўтэнтычныя запамінальна-кранальныя фільмы (іх ажно сем) пра беларускае вяселле, "крывыя вечары", "жаніцьбу Цярэшкі", калядкі і іншыя нашы абрады, звычаі, гульні, народныя спевы і спевакоў. Гэта ўсё зроблена самай таленавітай нашай жанчынай, заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, доктарам мастацтвазнаўства, этнамузыколагам Зінаідай Якаўлеўнай Мажэйкай. Яна нарадзілася ў Оршы. Скончыла Беларускую кансерваторыю. Займаецца тэарэтычнай музыкалогіяй, практычнай фалькларыстыкай. Ведае Беларусь як ніхто: аб'ездзіла і абышла яе ў сотнях экспедыцый. Падрыхтавала і выдала шматлікія зборнікі нашай народнай творчасці, лепшых яе ўзораў. Яна вядома не толькі ў нас, яе ведае ўвесь цывілізаваны свет – Македонія і Германія, Польшча і ЗША, многія народы зямлі, бо яна атрымала "Гран-пры" ЮНЕСКА за грамплацінку аўтэнтычнага фальклору Палесся, мае ганаровае званне "Чалавек года". Яна член камісіі спавянскага фальклору пры Міжнародным камітэце славістаў, Еўрапейскага семінару этнамузыколагаў, Міжнароднай асацыяцыі па народнай творчасці і інш. Зінаіда Якаўлеўна напісала грунтоўныя навуковыя манаграфіі "Песенная культура беларускага Палесся", "Каляндарна-песенная культура Беларусі", даклад на XII Міжнародны з'езд славістаў "Народна-песенная культура Беларусі ў агульна-славянскім кантэксце". Яна – адна з аўтараў і рэдактар унікальнай кнігі "Беларуская этнамузыкалогія: Нарысы гісторыі (XIX-XX стст.)"

Пра яе творчы і практычны метад дзейнасці калегі друкуюць працы.

*Янка Саламевіч.*

# ШТО МУЧЫЛА І ПЯКЛО

Не ведаю, як хто, а я люблю гартаць выдавецкія планы. Заўсёды цікава даведацца наперад, што ў тых планах чакае цябе з кніжных навінак сёлета, ў наступным годзе. Праўда, выдавецкія планы за часы нашай, так званай "незалежнасці" сталі больш сціслыя, сціплыя - удвая, а то і ўтрая, чым за свецкім часам. Зараз у дзяржаўныя выдавецкія планы трапляюць толькі самыя масцітыя, самыя самавітыя ды прабіўныя, ды тыя, хто пры гэтых планах. І ўсё ж беларусія кнігі, нягледзячы на дзяржаўнае фінансаванне абмежаванне, спакваля выходзяць. Выходзяць на сродкі саміх аўтараў. От ужо каторы год выдае на свае сціплыя пенсійны сродкі паэтычныя зборнікі вядомы літаратуразнаўца і паэта Іван Чыгрын.

Даўно я ведаю Івана Чыгрына. Сціплы, ціхмяны, не надта гаваркі. Эмацыйна стрыманы. Але як сведчыць ягоны апошні зборнік "Пялёсткі полымя" не такі ўжо эмацыйна лагодны гэты ціхмяны Іван. Пераважная большасць ягоных твораў, як свярдзёлкі. Яны пра тое, "што мучыла паэта і пякло".

Дык што ж яго мучыла і пякло? І мучыць, і пячэ?

*На ўсіх скрыжаваннях*
*Папярэджваюць,*
*Што мы*
*Павінны памерці,*
*Бо мы –*
*Беларусы,*
*Што ў тым прагрэс*
*Гісторыі.*

*Абрыўкі маёй душы!*
*Гаворыць Мінск.*
*Паказвае Мінск*
*Застаўкі. Рэплікі. Рэмаркі.*
*Рэплікі. Рэмаркі. Застаўкі.*
*Рэмаркі. Застаўкі. Рэплікі.*

Верш гэты датаваны 1977 годам. Але які ён надзённы для нашай рэчаіснасці 2003 года! З сёлетняга верасня цалкам праігнараванна наша родная мова ў інфармацыйных праграмах першага нацыянальнага канала; пакінулі яе толькі ў цітрах, рэпліках, рэмарках.

*Застаўкі. Рэплікі. Рэмаркі.*
*Рэплікі. Рэмаркі. Застаўкі*
*Рэмаркі. Застаўкі. Рэплікі.*

І на самую нашу мову ў сённяшніх чыноўнікаў такія ж пагляды як трыццаць гадоў таму:

*ГЭТА МОВА...*
*Не святочная – у святы.*
*Не будзённая – у будні.*
*Не бяруць яе ў салдаты.*
*Не цікавяцца прыблудні.*

*Мова гэта не ажурная –*
*Мова гэта некультурная.*
*Мова гэта не ракетная-*
*Мова гэта непрыкметная.*

*На палетку – невясёлая.*
*Ва ўстанове – не пісьмовая.*
*Ў магазіне – немабільная,*
*Не метро-аўтамабільная.*

*На заводзе – непатрэбная,*
*Мова гэтая – не хлебная.*
*З мовай іншаю не роўная.*
*З мовай іншаю не роўная.*
*Мова гэта – беспрацоўная.*



Пякло і мучыла Іванаву душу і гэта:

*Напісан лозунг па-руску -*
*Значыць, сацыялізм.*
*Напісан па-беларуску -*
*Значыць, нацыяналізм.*
*Таму*
*Ніякіх беларусіх школ.*
*Таму*
*Ніякіх беларусіх устаноў.*
*Якія там яшчэ гутаркі*
*Пра дзяржаўнасць*
*Беларускай мовы*
*Быць могуць?*
*Чыноўнік каб і заікнуцца*
*Не смеў*
*Па-беларуску.*
*Справаводства весці*
*толькі па-руску!*
*Не дапусцім*
*зневажальных адносін*
*Да рускага народа!*
*Хай жыве і развіваецца*
*руская мова!*

От у такой аўры давялося жыць не аднаму пакаленню беларусаў. Кожны Іванаў верш – гэта ягоны аголены нерв, шчымлівы да болю:

**У АЎТОБУСЕ "МІНСК-НАРАЧ"**

*За кожнае з кропкай "і"*
*Падводзілі да пятлі.*
*За кожнае з крэскай "ў"*
*Кідалі на годы ў турму.*

*- Чалавек – яно чалавек.*
*Калі нарадзіўся, няхай жыве.*
*Вось гэтае б "і"*
*ды з крэскай "ў"*
*Навекі б запёрлі яны ў турму.*

Пераважная бальшыня Іванавых вершаў-стрэмак з сямідзесятых гадоў. Але яны чапляюць за жывое неабыякавых і сёння. Наша моўная і дзяржаўная рэчаіснасць, на вялікае жаль, не палепшылася, а шмат у чым пагоршылася. А сыну Беларусі Івану Чыгрыну хацелася, каб інакш усё было, каб ягонае беларускае сэрца, наша моўная рэчаіснасць не мучыла, каб ягоную душу на Бацькаўшчыне нічога не пякло.

*Мы жылі заўсёды,*
*нібы на вакзале,-*
*Штурханіна, крыкі,*
*плач, што ў зайца, сон,*
*А прыходзіў поезд, у вагон саджалі*
*І вязлі ў напрамку*
*трыдзевяць старон.*

*Хто, калі загінуў,*
*дзе хто пахаваны, -*
*Знае толькі вецер*
*ды йшчэ машыніст.*
*Вецер жа не скажа,*
*нораў ветру знаны,*
*Казка машыніста –*
*прарэзлівы свіст.*

*Доля беларуса - гібель без прымусу.*
*Слава беларуса - без касцей курган.*
*Еду з пахавання, а ў душы спакуса,*
*Спее, нібы бомба,*
*фантастычны план –*
*Абярнуць ўвесь край наш*
*сёння ў рэстаран.*

*Баль такі адгрохаць,*
*пад такія трубы.*
*Каб уся планета хорам загула:*
*- Бе-ла-рус загінуў!...*
*Чалавек загублен,*
*І зямля з касцямі ў лона пряняла.*
20.VIII.1972 г.

"Пялёсткі полымя" Івана Чыгрына – гэта спроба зразумець, чаму на наш народ, яго мову гэтулькі памыяў выліта, што гэтай моваю, як хто хоча, гэдак і круціць і што мы за люд такі, які ўсё трывае...

*Што мы за люд?*
*Збыць гонар за лусту хлеба.*
*І што мы за люд?*
*Прадаць мову за талерку поліўкі.*

*І што мы за люд?*
*Выменяць край*
*На вандроўку*
*У*
*Цёмную*
*Ноч.*
30.X.1986 г.

*Рускія вызвалялі ад палякаў.*
*Палякі вызвалялі ад рускіх.*
*Вызвалялі шведы,*
*Вызвалялі французы,*
*Вызвалялі немцы.*
*І хто нас толькі не вызваляў?*
*А мы, як былі нявольнікамі,*
*Так і засталіся.*
Снежань 1986 г.

*Надзіва дзіўны мой народ.*
*Усё другім піхае ў рот.*
*А потым "ах!" і тут жа "ох!".*
*Што жыў галодны, а не здох.*
Верасень 1980 г.

*Палаем святлом адбітым,*
*Як месяц над хатай забытай.*
*І песні чужыя спяваем,*
*І мова у нас – чужая.*
1984 г.

*І што яны з намі зрабілі?*
*Бацькоў мы сваіх згубілі.*
*Дзядоў мы сваіх забылі.*
*Зямлю сваю загубілі.*
Чэрвень 1979 г.

Гэтыя ўсе нашы вызваляльнікі, на думку аўтара "Пялёсткаў полымя", маюць рацыю: ініцыятыва ў іхніх руках:

*Яны заўсёды маюць рацыю.*
*Ініцыятыва ў іхніх руках.*
*Спачатку – знішчэнне,*
*Потым – адраджэнне.*
*Знішчэнне асяроддзя,*
*Паветра, вады...*
*Знішчэнне сялянства.*
*Знішчэнне культуры.*
*Знішчэнне мовы.*
*Знішчэнне народа.*
*І во прапануюць:*
*Нават слоўцы пусцілі ў ход:*
*Пе-ра-бу-до-ва!*
*Ад-ра-джэн-не!*
*Лозунгі? А як без лозунгаў?*
*Яны любяць лозунгі.*
*І падпорку адшукалі:*
*Дэ-ма-кра-ты-за-цы-я!*
*Трэба ўмець!*
*Увесь свет*
*шалее ад захаплення.*
*Як забыўся,*
*Што знішчапае*
*Не перабудуеш,*
*Забітае,*
*Не ажывіш.*
25.X.1989 г.

Моўны і нацыянальны нігілізм на Беларусі спарадзіў шэраг пачварна дысгарманічных тыпаў людзей. Многія з іх праз трапную і нашу падачу лёгка распазнаюцца:

*Родам з украінскай мазанкі.*
*Жыве ў Беларусі,*
*А піша па-руску.*

*Рассаднік інтэр-на-цы-я-на-ліз-му!*

*Носіць украінскую кашулю,*
*Есць беларускі хлеб*
*І*
*Абагачае*
*Рускую*
*Культуру.*
18.VII.1989 г.

*Доўга б мясіў*
*Нагамі яго... толькі б асіліў...*
*Тоўсты Васіль*
*Стаў звацца – Толстой Василий*
(Урывак з незакончанай аповесці)
1988 г.

Гэтага дысгармону ў нашым беларускім жыцці процьма. То як быць? Як жыць?

*"Не хныкаць, не стагнаць і не енчыць! Але і не маўчаць!"* – раіць паэт.

*Змагацца трэба,*
*Пакуль не пераможаш.*
*Ісці трэба,*
*Пакуль не дойдзеш.*

*Рабіць трэба,*
*Пакуль не зробіш.*

*На тое мы і жывы!*
5.X.1988 г.

*Каб выцягнуць радзіму*
*з небыцця,*
*Не аднаму з сыноў*
*памерці трэба.*
*Пачаткам пачынаецца працяг,*
*Пачатак упіраецца у неба.*
13.VIII.1977 г.

Іванавы вершы – гэта вершы-дакоры, спроба зачапіць за жывое абыякавых да лёсу краіны. У іх шмат смутку і адчаю. Разам з тым гэта кніга з дынаміту:

*Не народ мы – анамалія!...*
*Не сустрэць такое ў Італіі,*
*Не спаткаць такое*
*ў Нямеччыне.*
*Не знайсці такое і ў Турэччыне.*
*Не пабачыш таго*
*ў Англіі, Кітаі.*
*Ва ўсім свеце, мабыць,*
*не спаткаеш*
*З'явы гэткай*
*(хочаш ці не хочаш)*
*Ні ў Балгарыі, ні ў Венгрыі,*
*ні ў Польшчы,-*
*Каб у самым цэнтры*
*роднае зямліцы,*
*Каб у самым цэнтры*
*ўласнае дзяржавы,*
*У цэнтры і надзеі ўласнае,*
*і славы,*
*У сваёй у роднай, у сталіцы*
*Шматмільённы люд*
*не мог прамовіць слова*
*Ў роднай мове.*
*Два уласныя словы!*
*Каб забыў,*
*узненавідзеў корань мовы.*
*Нехта пагадзіўся:*
*- Пэўна ж... Анамалія!...*
*Нехта іншае прамовіў слова:*
*- Паліва!...*
*Я скажу прасцей*
*(бо мы не дзеці):*
*- Смеце... Беларусы – смецце!*
*Што б мы ні цвярдзілі*
*і каму б ні ўторылі.*
*Месца нашае*
*на сметніку гісторыі.*
28.X.1983 г.

*Прывучаныя да пакоры,*
*Адвучаныя ад дабра,*
*Мы, беларусы, тыя зоры,*
*Якія болей не гараць.*
10.IX.1975 г.




Чытаць Іванавы "Пялёсткі полымя" нялёгка. Кожны твор раздзірае душу. Ягоныя "Пялёсткі полымя" – гэта нібыта люстэрка, у якім мы з усімі сваімі заганамі. Бачацца ў тым люстэрку і тыя, хто гэтыя заганы спарадзіў у нас, даўно нас да самаедства.

Я пэўны: грамадска паэтычныя імпульсы Івана Чыгрына будуць сугучныя шмат каму і найперш тым, хто неабыякавыя да лёсу Бацькаўшчыны.

Станьце яго чытачом! Нагадаю, кніжку сваю Іван Чыгрын выдаў за свой кошт і набыць яе можна толькі ў аўтара – 268-39-09

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



№ 47 (634) 17 СНЕЖНЯ 2003 г. Наша Слова

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 7. САФІЯ

Лічыла – свету неба не стае –
Павольных ліній светлая
прастора.
І гэтак жа, як некалі за морам
Луналі побач купалы яе.

А памяці вярталіся сляды.
Спыняліся ўражаныя смерды.
Камень паўночны
з грэчаскім паветрам
Злучаўся супраць цемры і бяды.

Спакой пазачасовых камяніц
Унутраным сваім бруіўся рухам.
Усходзілі мцры сафійскім духам
Параненых, зняверaных гаіць.

Калі нявечыў вір
нялюдскіх спраў,
Ішлі сюды ў пошуку патолі.
Сачыў алтар людзям
цяпло святое,
А сонца ад паганца закрываў.

Ды між сабой не ведалі мяжы
Шчымячых два,
як бы сляза патокі.
Сцішала смагу
ўзбуджанаму зроку
Замілаванасць мяккае душы.

### 8. ЗОРКА І ЗАЛАТАР

Сон быў бацькам з наказам.
Каб жа назвалі гожа:
Крышачку небам – Лазар,
Ледзь не ўсявышні – Богша.

Выйшла, што недарэмна.
Лёс надзяліў славянства
Залатаром адменным,
Літасцю Божай майстрам.

Свет углядаўся зорка
І ўслухваўся чула.
Недзе між цемры зорка
Сына святла пачула.

Дбаў ён аб малітоўцы
Прагнучых рук цяжарам.
Ясны праменьчык сонца
Толькі і пажадала.



Чыстай яе сцяжыны
Талент не ведаў бліжай.
Кроплю нябёс пакінуў
Ёй чараўнік у крыжы.

Вечную мела сілу,
Боскага, пэўна, следу.
Перад сабой свяціла
Васьміпраменна свету.

З праўдай ішла святою.
Верыла ёй трывала.
Моцна святло жывое
Ў розумы западала.

Шал супыняла спрэчны,
Каб зберагчы Айчыну.
Марай яднала вечнай,
Сэрцы людзей лучыла.

Болей не знала княства
Гэткай у ім улады.
Не паўтараўся майстар,
На ўспамін багаты.

Але ўжо ў змроку
Будуць заўсёды разам
Залатара і Зоркі
Іскаркі па-за часам.

### 9. ДЗІКУНЫ

Ой, пакутаў брыву!
Сачыняй полы дзень напралёт-
Як зазваць у царкву
Гэты цёмны бязглузды народ?

Усё крыва яму і нязвычна –
І храм, і званы.
На гулянку ж паклічуць –
Імчыцца на злом галавы.

Тым больш постаці сцен залатыя
Не ўцяміць мужык.
Хто яму там святыя
І нашага Госпада лік?

Дзіўны свет для паганца – далёкі
І нейкі чужы.
Чарадзейства вось толькі
Адно ці не ўсім да душы?

Кінь ім духаў былых
І каб побач былі вешчуны.
Што вам трэба ад іх –
Яшчэ дзеці малыя яны, дзікуны.

Лепш каляд ды русалак
Успомні і ўсім прыгадай.
Смачны кожны кавалак,
Але не спячэш каравай.

Аб чым дзецюкоў гамана,
Дык аб святах хмяльных.
Даражэйшага побач няма
Для старых і малых.

На Купалле –
хто будзе няспрытны
Гуляць у любоў?
Да якой тут малітвы
Ў грахоўнай паводцы кастроў?

Дык які ж ён супернік,
Наш светлы прыгожы сабор?
Не заменіць ім лісцяў і кветак
Ягоны прастор...

Ці не кожнаму лёс запаветны –
Не ладану дым –
Захлынуцца паветрам,
Зялёным блакітам сваім.

### 10. ЗЯМЛЯ

Незабыўнай пяшчотай навек
Стала самаю блізкай,
А другога не ведала
Сціплая думка багацця.
Ні на крок не хацела
З-пад ног адыходзіць калыска
Ад стараннага продка-
Зямля, яго добрая маці.

Хоць з сабой не прыносіла
Вабных надзей-абяцанак,
А ніколі не стала б аднойчы
Паганай зняверцай.
Задуменна маўчала,
Калі надыходзіў світанак
І скрозь іншыя гукі
Сыноўняе слухала сэрца.

Хай нярэдка суседзілі ў ёй
Аралля і магіла,
А здаралася – сокі балотнай
Атручвала скрухай.
Ды няспынна жывою крыніцай
Карміла-паіла.
Працінала наскрозь пестуна
Чыстым ядраным духам.

Адыходзілі прэч
Незнаёмыя справы ліхія –
Хутка тухнулі дробныя зоркі
Ля вечнага сонца.
І па кроплі ў ратая
Сачылася ладу стыхія:
Паўставаў усёй доляй сваёй
Ён паважна і моцна.

Першай праўдаю продку была
І балзёрай апорай.
Перад ім расчыняла
Жыцця яна вольныя далі.
Ён мажным крочыў волатам
Між зарунелай прасторы,
Абуджаючы з цемры зярняты
Для сонечных хваляў.

Не цярпела ніколі сумленне
Нячыстых хаўрусаў,
Што душу турбавалі заўжды
Не з-пад свойскага гарту.
Абміналі зямное жыццё
Выкрунтасы, спакусы,
Мітуслівыя дрыжыкі
Стан не кранaлі ўпарты.

Як абвязваў поле
Ракі векапомнаю стужкай,
У каменняў былінных
Прасіў сабе дабраславення,
Не лунаў ля аблокаў зямляк
Лёгкадумнаю птушкай,
Але ў нетры надзейныя
Глыбіў тугое карэнне.

Што яму, мужыку,
З недарэчнай якой-небудзь пыхі
Ўсё жыццё адкрывался
Ісцінай перад вачыма.
Ён не быў малой крыхай
Вялікай сваёй парадзіхі.
Праз яе – як рассоўваўся
Ў вечным абсягу Айчыны.

Светла жыў між людзей,
Бы з падвоеным сонцам у зроку.
Чалавек на зямлі,
Ад пачуццяў нядобрых адталы.
Быццам нораў яго малады
Напачатку вытокаў
Сваім чыстым
сумленным цяжарам

Яна ачышчала.
Сціпла песціла, мякчыла
Сэрца нярвовы клубочак,
З кволых рухаў яго
Вызваляла ў ім добрую сілу:

Яе першыя парасткі
Ўсмоктвалі чулыя вочы,
Як бацькоўскія вушы –
Смех тоненькі першынца-сына.

Рытмам сокаў глыбокіх
Тутэйшы адлічваў гадзіннік,
Бо бруіла зямліца ў дыханні
Зялёнага храма.
Быў сапраўдным землянінам
Колішні мой суайчыннік.
Напачатку жыцця –
Прававерным карэннем-Адамам.

### 11. ГОСЦІ

Дазволіў спагадліва Бог,
Калі праз знаёмыя рэкі
Паважна і горда пралёг
Гасцінец "з варагаў у грэкі".

Ён песціўся ўсёй грамадой.
Узводзілі блізкія смерды
Вандроўніка храм над ракой –
Прыстанак яго пасярэдзі.

Спляталіся рухі ў таргі,
Лучыліся моцна стыхіі –
Бурштынавых дзюн берагі,
Паўднёвыя хвалі марскія.

Плылі ад званоў да званоў...
І сцягвалі межы не хтосьці,
А рускіх буйных гарадоў
Найлепшыя самыя госці...

*(У рукапісе адсутнічае адзін аркуш пад нумарам 26.)*

### 14. АДРЫВАК З ЛЕТАПІСУ

...Нейкая шастала скрозь булава
Над зямлёй.
Падалі людзі, як тая трава
Пад касой.

Нешта іх, крыўцаў, прыпёрла,
Наслала загін.
Падалі, хрыпнуўшы горлам,
Адзін за другім.

Помсціла гэтак бяда
За мінулае зло.
Вось яно, урэшце, Хрыста
Пакаранне прыйшло.

Помніла добра зямля:
Недзе люд галасіў.
Надта ж ужо пагуляў
Усяслаў на Русі.

Дужа вядомая тайна –
Як той шэптам гром:
Зоркі вяшчалі нядаўна
Бадзязе садом.

Быццам выплёўваў зыкі
З дрыгвы вадзянік.
З жахам жагнаўся вялікім
На знакі мужык.

Знаў пра зацменні, маланкі,
Нядобрыя сны,
Ці груганоў
ён тлумачыў прыстанкі –
Крыві вестуны.

З поля журбы
Пачынаўся Русі радавод.
Прымхаў слупы
І крыжоў межавалі народ.

Брату сваііму праваслаўнаму
Кіеў тады
Зычыў не гучнай "асанны",
А моцнай бяды.

### 14. НЕ ДАЦЯГНУЛІ...

Што там і тузацца
Нашай зязюлі –
Продкі да русічаў
Не дацягнулі.

З лесам, прынамсі,
Жылі невяльможна.
Пудзілам стаўся
Ледзьве не кожны.

Хай і славяне –
Мовай старою
Толькі пергамент
Лучыў нас адною.

Ды за барознамі
Нашы падворкі
Хатнія – розныя
Мелі гаворкі.

Ратаямі вольнымі
Рана зрабіліся.
Трохі па-свойму
Продкі маліліся.

І перад смерцю,
Да цудаў імклівыя,
Ладзілі сэрцам
З рознымі дзівамі.

Нораў нязлосны,
Зялёныя хвалі,
Дзікія вёрсты
Адасаблялі.

Рускіх абсягаў
Не ведалі рэкі.
Госці з варагаў
Рухалі ў грэкі.

Дык гандлявалі
Сціпла з Усходам.
Іншыя далі
Звалі й народы.

І шалапутна
Не зналіся марна.
Помнілі смутна
Суседа у твар мы.

Час быў драпежны
І утрапёны.
А на пamежжжы
Багата палону.

Рурыкі бралі
І Палямоны.
Варагавалі
Стагоддзі плямёны.

Доўга была
Марнай мара аб згодзе.
Вось і Ўсяслаў
Дужа брату нашкодзіў.

Зналі калісьці
Ліха мы злое.
Не дабраліся
Татары затое.

Коннікі прышлыя,
Д'яблы з крыжамі –
Ворагі іншыя
Біліся з намі.

Люд мірны страшылі
Бойкі бясконцыя.
Блізкаю нашай
Пасля абаронцаю

Стала Літва
Ад маскальскіх залётаў.
Тая Масква
Нарабіла бядоты...

Дык абагулім:
Калі па сумленню –
Не дацягнулі
Родзічы.
Вельмі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*



**Люксор. Егіпет. 12.03.1947 год. Трэці злева ў шэрай кашулі Міхаіл Швэдзюк.**

Каля Каіра аглядалі і падзіўлялі высокую, старажытную егіпецкую культуру, архітэктуру, помнікі фараонам, абеліскі, некропалі.

Выезд да Егіпта і адведванне помнікаў фараонскай эпохі засталіся ў мяне найлепшай памяццю і ўспамінамі. Гэтая паездка была для нас тым больш цікавая і карысная бо мы бралі урокі гісторыі старажытнага Егіпта.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ І РЭЛІГІЙНЫЯ СТАСУНКІ

Уступіўшы да юнацкай школы ў Тэгеране ў красавіку 1942 года, я застаўся сам адзін і апынуўся ў чужым для мяне асяроддзі. Чужыя былі хлопцы, чужая мовы, чужая рэлігія. Чужыя навычкі і звычаі. Мы, праваслаўныя беларусы, адрозніваліся ад польскіх хлопцаў не толькі нашай рэлігіяй, але і прозвішчамі, а часам, нават, імёнамі. Тады, на пачатку, мы не ўмелі яшчэ добра гутарыць па польску, наша веданне польскіх словаў было слабое. Падчас малітваў мы жагналіся інакш, жагналіся з трыма пальцамі, складалі рукі інакш падчас малітваў і г. д. Адным словам мы адрозніваліся ад палякаў.

Быць іншай асобай сярод бальшыні, быць нацыянальнай меншасцю, не ёсць зайздросным становішчам, а тым больш сярод не вельмі прыязнага асяроддзя. А мы ў такім ясяроддзі апынуліся.

Кадэцкая школа ў Палястыне існавала ад 1942 года. Адзін год існавала ажно ў Англіі. Цераз школу прайшло 1200 хлопцаў– кадэтаў. Нармальна ў кожным годзе навучання было прыблізна 400 кадэтаў.

Пасля майго ўступлення да Кадэцкай школы ў 1942 г. я хутка заўважыў, што ў школе было толькі дваіх хлопцаў кадэтаў праваслаўнай веры. Гэта мяне вельмі здзівіла і розныя думкі пачалі прыходзіць да маёй маладой галавы.

Хлопцамі, якія прызнаваліся да сваёй веры і нацыянальнасці былі мой добры сябар Расціслаў Глуўка (украінец з Крамянца на Валыні) і я. А на пачатку 1943 года дадаўся школе тако ж, былі штодзённыя агалошанні–загады. Аднога разу прагаласілі, што карэт Вацлаў М-ык змяніў рэлігію з праваслаўнай на рыма-каталіцкую. Для мяне гэта было вялікім шокам, але не неспадзяванкай. Вацлаў быў непаўналетнім. Каб замяніць рэлігію



**Люксор. Егіпет. 12.03.1947 год. Каля помнікаў фараонам, у шэрай кашулі Міхаіл Швэдзюк.**

трэба было мець згоду бацькоў, сумняваюся каб ён меў дазваленьне ад маці на змену рэлігіі.

Асягнуўшы сваю мэту з Вацлавам М-кам, наш прафесар Эдвард Завіша-Чарвіньскі пачаў рабіць подступы і да мяне. Аднаго разу, узяўшы мяне на шпацыр, кажа мне, што мае продкі былі рыма-каталіцкай веры і што рускія (рос'яне) перавялі іх на праваслаўе... Пасля гэтага паўстала магільная цішыня. Прафесар, закінуўшы хітрую вудачку ў мой бок, церпяліва чакаў на маю рэакцыю. Ён напэўна спадзяваўся што я ўверу ў яго выдумкі і перехрышчуся з праваслаўя ў каталіцтва. У канцы я сказаў, што яго версія аб маіх продках ёсць для мяне навіной, і што ў гэга я не веру. Я на яго вудачку не пайшоў. Ён мяне зразумеў і пакінуў у спакоі.

яшчэ адзін хлопец, праваслаўны беларус, Вацлаў М-ык. Але не на доўга.

З Вацлавам М-кам была наступная справа. Прафесар лацінскай мовы Эдвард Завіша-Чарвіньскі ўзяў Вацлава пад сваё апякунства". Я перасцерагаў Вацлава каб ён быў "асцярожны" з прафесарам.

Як у кожнай вайсковай установе, у Кадэцкай

Варта тут успомніць, што калі пішу гэтыя ўспаміны (2003 год), ані Расціслава ані Вацлава няма ў жывых. Першы памёр ў Англіі, а другі ў Канадзе.

Хоць у Кадэцкай школе з чатырыста хлопцаў было толькі нас дваіх (Расціслаў і я), якія цэлы час трымаліся сваёй нацыянальнасці і рэлігіі, мы падазравалі, што там была і больш нашых хлопцаў, мяркуючы па прозвішчах, імёнах, адкуль паходзілі, і чым бацькі займаліся. Што там было больш праваслаўных хлопцаў успомню наступнае. У Англіі спаткаў адну беларускую праваслаўную сям'ю, родам з Беласточчыны. Іхні сын, А. О-скі, быў у Кадэцкай школе. Я яго добра ведаў, але з такім польскім прозвішчам ніколі не падазрываў, што ён быў беларусам і праваслаўным. А ён ніколі, нават пад сакрэтам, не прызнаўся перада мною ў гэтым. Думаю, што будзе тут да месца ўспомніць хоць толькі некаторых хлопцаў беларусаў праваслаўнай веры, якія апынуліся ў юнацкіх школах ў Палястыне ў 1942 годзе, і якіх я асабіста ведаў: Іван Грыцук; Іван Гурын; Джыран Юзаф і Іван Дэмчук; Кулякевіч; Уладзімір Лысюк; Вацлаў Матэйчык, Сідарук; Мікалай Хведарук; Уладзімір Калесніковіч...

*(Заканчэнне на ст. 12.)*



# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Заканчэнне.)*

Добра ведаў тако ж хлопцаў Анатолія Разановіча і А. Ап-скага. Аб тым што яны былі тако ж беларусамі і праваслаўнымі даведаўся ўжо па прыездзе да Англіі ў 1947 г. Гэты спіс, натуральна, не ёсць поўны.

Аб неталеранцыйным і варожым настроі палякаў да беларусаў-праваслаўных я пісаў у эміграцыйных газетах "Беларус" (ЗША) і "Рунь" (Літва). Вось што я пісаў у газеце "Рунь" № № 29 ад 27 студзеня 2000 года, аб стасунках паміж палякамі і беларусамі ў Афрыцы (Танзаніі):

"На вялікі жаль, некаторыя палякі - без ніякіх рацыянальных прычынаў – былі варожа настаўленыя да беларусаў, а яшчэ горш - да ўкраінцаў. Відаць, так праяўлялася пачуццё крыўды палякаў за высяленні, здзейсненыя бальшавікамі, каторыя ў іхняй свядомасці асацыяваліся з расейцамі, а значыць, з праваслаўнымі. А на тое, што разам з імі былі выселеныя саветамі ды трапілі на катаргу й праваслаўныя беларусы, -"крэсавякі"- асаднікі хутка забыліся. Забыліся, што беларусаў часта вывозілі праз тое, што яны некалі служылі ў "польскіх" маёнтках, абраблялі "панскаю" зямлю ды пільнавалі "панскія" лясы. Беларусы ў разуменні "крэсавякаў" былі "рускімі" або "схізматыкамі", ад якіх палякі вякамі цярпелі... Нянавісць да праваслаўных у "Тэнгэру" была настолькі вялікая, што невядомыя хуліганы ўчынілі зняслаўленне царквы.

На гэта адзначым, што з боку праваслаўных да палякаў не было варожасці, наадварот, беларусы ды ўкраінцы цалкам лаяльна ставіліся да іх, шчыра служылі ў польскай арміі, ваявалі, пралівалі кроў і гінулі за Польшчу. Ці ж гэтыя людзі не заслужылі на лепшае стаўленне да сябе?"

Чаму беларускія і ўкраінскія хлопцы не прызнаваліся да сваіх нацыянальнасцяў і рэлігіі, альбо перахрышчваліся з праваслаўных у каталікі, злажылася некалькі повадаў. Аб гэтым варта апісаць дэтальна ў другіх месцах. На маю асабістую думку, успомню аднак, што ў гэтым ёсць віна палякаў і саміх хлопцаў.

Расьціслаў і я рэгулярна ездзілі да Ерусаліма да царквы на нашыя праваслаўныя святы як Вялікдзень, Каляды і т. д. У Ерусаліме ў 1943 годе затрымваліся ў аднаго беларуса з Вільні, Цімафея Касцевіча. А потым цэлы час затрымваліся ў капітана Паўла Міхайлавіча Бадылеўскага (украінец родам з пад Палтавы).

Павел Міхайлавіч быў добрым чалавекам і вельмі сярдэчна апекаваўся намі. Падтрыліваў нас на духу. Быў ён афіцэрам у царскай арміі, потым у арміі гетмана Пятлюры. У міжваенны час жыў у Беластоку. Быў арыштаваны бальшавікамі і вывезены на катаргу ўглыб СССР. З арміяй генерала Андэрса выехаў да Ірану а потым да Палястыны. Памёр у Англіі і пахаваны ў Лондане. У Польшчы засталася дачка.

У Ерусаліме мы пазнаёміліся з многімі рускімі і ўкраінцамі, якія пасяліліся там пасля рэвалюцыі ў 1917 годзе. Сярод гэтых людзей было многа інтэлігэнцыі. Яны запрашалі нас да сябе ў госці.

Падчас майго побыту ў кадэцкай школе ў Палястыне, адведаў нас айцец Усевалад Яськоў. Як вайсковы капелан ён меў афіцэрскі чын капітана. А потым адведваў нас тако ж і архіяпіскап Сава. Дзеля таго, што ён быў япіскапам пры войску, ён меў генеральскі чын генерала брыгады. Віталі яго з ганаровай вартай. Мне, як праваслаўнаму, трэба было яго прывітаць і злажыць рапарт.

Мой сябр Расціслаў і я мелі даўжэйшую аўдыенцыю з архіяпіскапам Савай. Па прыездзе да Англіі я спатыкаўся з ім некалькі разоў у Лондане.

Аднойчы, будучы ў Ерусаліме капітан Базылеўскі паказаў мне ўкраінскую газету з Англіі. У ёй было агалошана інфармацыя, што ў Англіі засноўваецца беларуская арганізацыя. Я адразу адгукнуўся і скантактаваўся з гэтай арганізацыяй. Яны прысылалі да мяне газеты, бюлетэні, паведамленні. Гэтай арганізацыяй было "Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытанні"

Так як я быў у вайсковай школе, усе лісты ішлі да цэнтральнага асяродка. Польскія ўлады дазналіся, ад каго прыходзілі да мяне лісты з Англіі і аб маіх кантактах з беларускай арганізацыяй. Пыталіся мяне што гэта за арганізацыя. Я ім расказаў тое, што ведаў. На гэтым і закончылася.

**ВЫЕЗД ДА АНГЛІІ**

Пры канцы чэрвеня 1947 года нас, новых абітур'ентаў пастанавілі выслаць да Англіі каб паступаць у ангельскія ВНУ-вы. Трэба прызнаць палякам, што яны дбалі, каб іхняя моладзь вучылася, была адукаваная і, хіба не патрэбна тут паўтараць, каб польская моладзь была прасякнута патрыятычна-нацыяналістычным духам.

З Газы цягнікам паехалі да Эль-Канторы на Суэцкім канале. З Эль-Канторы грузавікамі пераехалі да лагера каля вельмі прыхожага горада Ісмаілія, тако ж каля Суэцкага канала. Ў Ісмаілі поўна зелені, мноства крамаў, уладальнікамі якіх былі, між іншым, армяне і грэкі. Мы тут затрымаліся некалькі тыдняў і чакалі на карабель.

З Ісмаіліі перевезлі нас да Егіпецкага порта Порт-Саід на Сяродземным моры. Заладаваліся на ангельскі карабель і паплылі цераз Сяродземнае мора, Гібралтар, Атлантычны акіян да ангельскага порта Ліверпуль. Быў ліпень 1947 года.

Пасля некалькі дзён я спаткаўся з бацькам, па чатырохгадовым разстанні. А цераз год г. зн. ў 1948 годзе прыехалі да Англіі, маці і дзве сястры. Дык мы ужо злучыліся і пастанавілі застацца на пастаянна ў Англіі.

З дзевяці асоб нашай сям'і, якія былі вывезены саветамі 10.II.1940 года, да Англіі, пасля вайны, прыбыло толькі пяць асобаў: бацька, маці, дзве сястры і я. Паўтару тут яшчэ раз аб лёсе чатырох асобаў, якія не прыехалі да Англіі:

Дзед Канстанцін. Памёр і пахаваны на станцыі Емцы ў Архангельскай вобласці.

Бабка Наталля. Памерла і пахавана ў лагеры Тэнгэру каля гарадка Аруша ў Танзаніі.

Брат Пятро. Загінуў на фронце і пахаваны на вайсковых могілках у мясцовасці Granville Langennetie каля горада Ealaise ў Францыі.

Сястра Ева. Пасялілася з сям'ей ў Паўдзённай Афрыцы.

*Міхаіл Швэдзюк,*
*чэрвень 2003 года,*
*Англія.*



**Сядзяць: Сава і Мар'я Швэдзюкі - бацька і маці. Стаяць: злева направа Таццяна, Міхаіл, Зося Швэдзюкі - іхнія дзеці. 1949 год. Англія.**

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 3.Разведка. 9.Мотыга. 10.Уважение. 11.Рассуждение. 12.Палач. 13.Строй(грамадскі). 14.Стожок (невялікі). 16.Любители. 20.Аминь. 25.Допрос. 26.Работаешь, делаешь. 27.Нрав. 28.Или. 29.Фон. 30.Бульон. 33.Сугроб. 36.Дёшево. 41.Кроткий. 42.Пятно (інш. колеру). 44.Поджог. 47.Подмышка. 49. Стропило. 50. Втихомолку. 51.Шиворот. 52.Потом, после. 53.Подруга.

**Па вертыкалях:** 1.Утка. 2.Чёрточка. 3.Караул. 4.Беларуская назва места Красная Слабада. 5.Жало. 6.Опавший. 7.Склока. 8.Согласие. 14.Кузов. 15.Зола. 17.Мурава. 18.Лагерь(вайсковы). 19.Остаток. 21.Негр. 22.Мзда (выгода). 23Состояние. 24.Фитиль. 31.Образец. 32.Остолоп. 34.Восток. 35.Плохо. 37. Засек (агароджанае мейсца ў клеці). 38.Скука. 39.Крепыш. 40.Играть на гармони (непрафес.) 42.Культя. 43.Покрывало (чым апімаюць што-н.). 45.Комната. 46.Лампа. 48. Пастбище.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 12. 2003 г. Замова № 2783.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 3100 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
*Кошт у розніцу:* 240 руб. (у Менску - 250 руб.)